

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 11 (лістапад), 2015

# Мяжа




**Збілі за кашулю з гербам «Пагоня»**

(старонка 3)

## ЗЬМЕСТ

## Збілі за кашулю з гербам «Пагоня»

6 лістапада ў Берасьце быў затрыманы міліцыянтамі Андрэй Кавальчук.

Вось, што ён распавёў аб абставінах затрымання:

«6 лістапада, каля 12 гадзін ночы, я чакаў сябра. Прыехалі міліцыянты, маёр спытаў прозвішча. Я быў у расшпіленай куртцы. Ўбачылі маю кашулю з "Пагоняй", заламалі рукі, ударылі з нагі, потым у галаву. Цягнулі за кайданкі, што рукі зацяклі. Адвезлі ў міліцыю. У аддзяленні мяне ўдарылі па твары. Я ўпаў на падлогу. Збіваў маёр каля паўгадзіны. Ніякіх пытанняў не задавалі. А потым выкінулі мяне на вуліцу. Моцна апухла рука, відаць вывіхнулі плячо пры затрыманні. Я прайшоў медыцынскі агляд, напісаў заяву ў Следчы камітэт».

Нагадываем, што 10 кастрычніка Андрэя Кавальчука разам з сябрамі затрымала міліцыя, калі яны ехалі ў Менск на акцыю апазіцыі перад прэзідэнцкімі выбарамі. Быў складзяны пратаколы аб адміністратыўным парушэнні, нібыта яны брыдкасловілі.

30 кастрычніка адбыўся суд, дзе у выніку разгляду справы суддзя суду Маскоўскага раёна г. Брэста Раман Якаўлевіч Карабан, прыняў рашэнне “спыніць адміністратыўную справу за малазначнасцю”.

## Знішчаны дух свабоды

Напрыканцы кастрычніка Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С.Пушкіна адзначыў сваё 70-годдзе. Паводле пастановы Савета народных камісараў БССР 6 чэрвеня 1945 быў створаны Настаўніцкі інстытут, а ў 1950 годзе на яго базе адкрылі педагагічны інстытут, які складаўся з трох факультэтаў: фізіка-матэматычнага, прыродазнаўчага, факультэт мовы і літаратуры. У 1995 годзе інстытут быў ператвораны ў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт. Сёння ў структуры універсітэта 12 факультэтаў.

Значны ўклад у развіццё універсітэта ўнеслі выбітныя выкладчыкі, педагогі, навукоўцы. Гэта – людзі-легенды універсітэта: дацэнт Міхаіл Асс- заснавальнік біялагічнай музея. Лідзія Нямцова стаяла ля вытокаў геаграфічнай адукацыі на Берасцейшчыне. Ядзвіга Чарняўская заслужаны дзеяч культуры БССР. Прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук, Сцяпан Кандраценя стварыў навуковую



школу па тэорыі дыферэнцыяльных раўненняў. Уладзімір Калеснік, які з 1956 года чвэрць стагоддзя кіраваў кафедрай беларускай літаратуры, заслужаны працаўнік высшэйшай школы БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа, сябар саюза пісьменнікаў СССР. У гэты час складваюцца педагагічная, гісторыка-літаратурная, лінгвістычная навукова-даследчыя школы (прафесара, сябра-карэспандэнт БелАА Веры Зарэцкай, прафесара Ўладзіміра Калесніка, прафесара Галіны Малажай). Прафесар Антон Рэвінскі заснаваў навуковую школу па фізіцы. Прафесар Уладзімір Коркін стварыў педагагічную школу па акрабатыцы. І многія іншыя выкладчыкі сваё жыццё прысвяцілі стварэнню моцнай, наватарскай вышэйшай школы не толькі ў нашым рэгіёне, але і за яе межамі.

Пасля набыцця незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе выкладчыкі, супрацоўнікі і студэнты ўніверсітэта не засталіся ў баку ад палітычнага жыцця краіны.

Але іх актыўная пазіцыя ўспаміны мінулага. Намаганнямі прызначаных рэктараў Уладзіміра Плецюхова, Мечыслава Часноўскага, Ганны Сендзер цягам апошніх дзесяцццігоддзяў былі звольненныя з універсітэту ўсе выкладчыкі, якія мелі дачыненне да

палітычных партый як да партыі БНФ, так і да Сацыял-Дэмакратычнай Партыі Грамада, да разнастайных грамадскіх аб'яднанняў і незалежнага прафсаюзу.

Маючы, такую палітычную сітуацыю ў краіне, гэта і не дзіўна, бо менавіта ва ўніверсітэтых заўсёды нараджаўся дух свабоды і вольнадумства.

У гэтым годзе Беларусь далучылася да агульнай эўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі: Балонскага працэсу, паглядзім ці паболей акадэміцкіх свабод у БрДУ.

## Брэст: актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі намераны правесці ў адзін дзень дзесяць пікетаў

Заяўкі на акцыі, якія плануецца правесці 22 лістапада ў розных месцах горада, перадалі ў гарвыканкам старшыня АГП Анатоль Лябедзька і яго намеснік Уладзімір Вуек.

Як паведаміў У.Вуек, мэтай пікетаў будзе прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем, звязаных з эканамічным крызісам у краіне і неабходнасці рэфармавання эканомікі, а таксама папулярызацыя праграмы АГП “Мільён новых працоўных месцаў”.

Мяркуецца, што кожны з пікетаў будзе доўжыцца гадзіну (першы пачнецца ў 10.00, апошні - у 20.00). Пры гэтым Уладзімір Вуек не выключыў, што ўлады могуць забараніць заяўленыя акцыі, і тады ў Брэсце пройдзе альтэрнатыўнае мерапрыемства з удзелам лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

http://spring96.org/be/news/81112

## У Брэсце прапануюць правесці агульнагарадскі круглы стол з нагоды Дня правоў чалавека

З адпаведным зваротам у Брэсцкі гарвыканкам і гарадскі Савет дэпутатаў звярнуліся мясцовыя сацыял-дэмакраты, якія намераны прымеркаваць мерапрыемства да гадавіны прыняцця 10 снежня 1948 года Генеральнай Асамблеяй ААН Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.




Паводле ініцыятывы Брэсцкай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), да ўдзелу ў круглым стале запрашаюцца прадстаўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый, праваабаронцы, прадстаўнікі выканаўчай і прадстаўнічай улады, органаў правапарадку, прадстаўнікоў незалежных і дзяржаўных СМІ.

"У прыватнасці, мы прапануем абмеркаваць пытанні наконт рэалізацыі ў Брэсце артыкулаў Усеагульнай дэкларацыі ў справе выканання права на мірныя сходы, права на свабоду слова і друку, удзелу грамадзян і палітычных партый у выбарчых кампаніях, а таксама ў мясцовым кіраванні і самакіраванні. У сувязі з прыняццем апошніх заканадаўчых актаў і іншых дакументаў мы хацелі б абмеркаваць таксама палажэнні Усеагульнай дэкларацыі, якія тычацца абароны сацыяльна-эканамічных правоў", - пракаментавала ініцыятыву старшыня Брэсцкай гарадской арганізацыі БСДП (Г) Ганна Канюс.

http://spring96.org/be/news/81178

## Прафсаюзныя актывісты наведалі Швецыю

Прадстаўнікі беларускага незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці наведалі Швецыю па запрашэнні сваіх калегаў з прафсаюза IF Metall. У ім налічваецца больш за 350 000 чалавек, якія занятыя на 12 000 прадпрыемствах Швецыі. Беларусы сустрэліся з кіраўніцтвам прафсаюза, наведалі сталеліцейнае прадпрыемства "SSAB", дзе пазнаёміліся з вытворчасцю металічных лістоў, паразмаўлялі з рабочымі і пабывалі ў сталовай.

Сваімі ўражаннямі ад убачанага дзеляцца прадстаўнікі незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці.

– Рабочая сталовая здзівіла. Як і тое, што ядуць там працоўныя.




У нашых рэстаранах, магчыма, такога не пабачыш. Пры наведванні шведскай вытворчасці пабачылі поўную аўтаматызацыю.

Няпраўда, што яны працуюць на тэрміновых кантрактах. Яны нават не ўяўляюць, як можна выпіваць на працоўным месцы.

– Для звычайнага працоўнага створаны ідэальныя ўмовы. Дзяржава дбае пра яго. Наймальнік дбае. Афіцыйныя прафсаюзы бароняць чалавека пры розных абставінах. Не было ніводнай акцыі пратэсту рабочых, бо прафсаюзы ўмеюць дамаўляцца з кіраўніцтвам.

– Тут няма судовых спраў. Справа проста не даходзіць да суда. У наймальнікаў ёсць асобны прафсаюз. І гэта прапісана ў Швецыі на ўзроўні заканадаўства. Наймальнік не мае ніякага ўплыву на працоўны калектыў. Прафсаюз тут мае моц.

Па словах прадстаўнікоў беларускага незалежнага прафсаюза, самым запамінальным момантам было наведванне Рыксдага, аднапалатнага швецкага парламента. Там яны сустрэліся з двума дэпутатамі і змаглі наведаць слуханні. У Швецыі пабываць у парламенце на слуханнях і дэбатах можа кожны жадаючы.

http://www.racyja.com/hramadstva/prafsayuznyya-aktyvisty-navedali-shvets/

## У Берасці сабраліся жанчыны з незалежных прафсаюзаў

Што рабіць у цяжкіх эканамічных варунках, каб мець магчымасць утрымаць сям'ю, ды як падняць рабочых на барацьбу за свае правы,




— такімі пытаннямі займаліся на сустрэчы ў Берасці жанчыны Берасцейскага абласнога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці і іх калегі жаночага аддзялення Незалежнага прафсаюза Наваполацкай рэгіянальнай арганізацыі.

Кажа Зінаіда Міхнюк, старшыня Берасцейскага абласнога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці:

— Мы з Таццянай і тут яшчэ актывісты «Цветатрону» паўжыцця, найбольш маладыя гады аддалі гэтаму прадпрыемству. Нашыя калегі з «Нафтану», дык іхны завод хоць працуе. Я не кажу, што квітнее, бо ў нашай квітнеючай Беларусі ўсё працуе аднолькава. А наш — натуральна загінаецца.

Касцюкова Таццяна:

— На сённяшні дзень працы на «Цветатроне» практычна няма,

заробкі ніякія завод нават не ацяпляецца.

Удзельніцы сустрэчы прыйшлі да высновы, што іх цяперашні галоўны накірунак — правядзенне адукацыйнай працы сярод калектываў. Толькі тады сітуацыя зрушыцца да лепшага, калі рабочыя зразумеюць, што трэба яднацца ў незалежныя прафсаюзы, якія будуць бараніць іх інтарэсы.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-sabralisya-zhanchyny-z-nezalezh/

## На прадпрыемстве "Граніт" у Мікашэвічах хочуць пазбавіцца яшчэ аднаго "непаслухмянага" супрацоўніка

Гэтым разам адміністрацыя прадпрыемства не жадае працягваць кантракт з Уладзімірам Табулай, які дванаццццаць гадоў працуе на "Граніце" на розных пасадах.




Паводле 30-гадовага Уладзіміра Табулы, за увесь час працы (спачатку - электраслесарам, пасля - энергетыкам, майстрам па рамонце абсталявання, майстрам цэху) заўваг да яго не было і часта рабіліся прапановы падмяняць на час адпачынку сваіх непасрэдных кіраўнікоў.

У 2013 годзе Уладзімір атрымаў прызначэнне на пасаду інжынера па ахове працы і пераканаўся ў тым, што на прадпрыемстве не ўсё робіцца, як належыць, у справе бяспекі працоўных. Свае заўвагі наконт таго, каб працоўны рэжым на "Граніце" адпавядаў зацверджаным Правілам унутранага распарадку, ён перадаваў у адміністрацыю. "Але там давалі зразумець, што мне не трэба лезці не ў сваю справу, а пасля прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці па надуманай падставе", - кажа Табула і ўзгадвае, як адзін з кіраўнікоў выказаў меркаванне, што такім чынам інжынера па ахове працы хочуць "паставіць на месца".

Яшчэ адной нагодай для звальнення можа быць і тое, што Уладзімір захаваў добрыя адносіны з людзьмі, якія раней працавалі

на “Граніце” і былі звольненыя за ўдзел у незалежным прафсаюзным руху. У выніку, калі інжынеру па ахове працы надыйшоў час праходзіць атэстацыйную камісію, ён раптоўна атрымаў паведамленне, што працоўны кантракт, які заканчваецца 17 снежня, будзе скасаваны. Пакуль Уладзімір Табула, які выхоўвае чатырох дзяцей, хоча трапіць на прыём да генеральнага дырэктара “Граніта”, а таксама накіраваў скаргу ў камісію па працоўных спрэчках прадпрыемства і ў дэпартамент Пінскай міжраённай інспекцыі па працы.

http://spring96.org/be/news/81280

## Прапанавалі выкупіць уласныя кватэры па рынкавым кошце

У Берасці супрацоўнікі аднаго з прадпрыемстваў змагаюцца за права на ўласнасць. Частку ад свайго прыбытку ўстанова не сплачвала дзяржаве ў выглядзе падаткаў. За гэтыя грошы прадпрыемства Белтрубаправодбуд будавала з 1994 па 2001 гады жыллё для працоўных. Пры засяленні грамадзяне падпісалі дамову прыватнага жыллёвага фонду, якая была зарэгістраваная як дзяржаўны жыллёвы фонд з пажыццёвай арэндай кватэр працоўнымі. „Пасля змены кіраўніцтва прадпрыемства ў 2013 годзе, жыхароў пачалі прымушаць плаціць арэнду за жыллё або выкупляць яго па рынкаваму кошту, з чым яны не пагадзіліся,” – распавялі жыхары дома №68 па вуліцы Машэнскага.

– Сітуацыя склалася катастрафічная. Менавіта для нас, для жыхароў дома. Нам прапанавалі выкупаць кватэры па камерцыйнаму кошту. Ніякай размовы не магло быць аб прыватызацыі, на што людзі настроены. Атрымліваецца, што людзі страцілі шмат прывілегіяў і законных правоў, якія яны мелі ад дзяржавы.

– Калі будаваўся гэты дом, арганізацыя мела ільготы па падатку на прыбытак, то бок дом будаваўся за кошт прыбытку. Дзяржава не даатрымала пэўных грошай, і не малых грошай на той момант.

Грамадзяне звярталіся як да выканаўчай улады, так і да наглядных органаў, аднак пытанне не вырашана такім чынам, каб былі задаволеныя два бакі канфлікту. Зыходзячы з дакументаў,

прадастаўленых жыхарамі дому, атрымліваецца, што прадпрыемства за кошт падаткаў беларускіх грамадзянаў пабудавала жыллё, прыбыткі ад эксплуатацыі якога ідуць на яго карысць, а не на карысць жыхароў дома або плацельшчыкаў падаткаў.

http://www.racyja.com/hramadstva/prapanavali-vykupits-ulasnyya-kvater/

## Берасцейскія ўлады забаранілі АГП гаварыць з людзьмі пра крызіс

Берасцейскі гарвыканкам забараніў актывістам Аб’яднанай грамадзянскай партыіГП ладзіць пікеты, прысвечаныя эканамічным праблемам у Беларусі. Падставай да забароны пікетаў пад назвай «Мільён новых працоўных месцаў» стала адсутнасць заключаных дамоваў з прадстаўнікамі аховы здароўя і камунальных службаў. Адзін з заяўнікаў пікетаў на тэму стану беларускай эканомікі Уладзімір Вуек лічыць адмову палітычна матываванай:

— Мы лічым гэты адказ беспадстаўным. Мы непавінны заключаць ніякія дамовы. Мы аплацілі працу гэтых службаў, як падаткаплацельшчыкі і хацелі скарыстацца сваім канстытуцыйным правам на правядзенне мірных сходаў, шэсцяў і гэтак далей.

У якасці альтэрнатыўнага мерапрыемства сябры партыі правялі круглы стол на тэму стварэння мільёна новых працоўных месцаў у Беларусі. У ім ўдзельнічалі прыхільнікі дэмакратычных пераменаў, якія прыйшлі ў партыю, або пакінулі свае кантакты ў часе прэзідэнцкай кампаніі, эксперты, а таксама прадстаўнікі іншых грамадскіх і палітычных арганізацыяў.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskiya-ulady-zabaranili-agp-ga/

## ПАСЕ выказвае трывогу з нагоды смяротнага прысуда ў Беларусі

Два дакладчыкі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) выказалі трывогу з нагоды смяротнага прысуду, вынесенага у Беларусі на мінулым тыдні, і заклікалі ўлады не прыводзіць яго ў выкананне, паведамляе афіцыйны сайт ПАСЕ.

“Смяротнае пакаранне супярэчыць каштоўнасцям Савета Еўропы і яму няма месца на нашым кантыненце”, — заявіў дакладчык ПАСЕ па сітуацыі ў Беларусі Андрэа Рыгоні (Італія, Альянс лібералаў і дэмакратаў за Еўропу), а таксама генеральны дакладчык па пытанні адмены смяротнага пакарання Мар’ета Караманлі (Францыя, Група сацыялістаў).

“Незалежна ад цяжару злачынстваў, учыненых злачынцам, і выказваючы нашае спачуванне сем'ям ахвяраў, мы спадзяемся, што гэты прысуд не будзе выкананы, нават калі ён пакінуты ў сіле ў выніку абскарджвання. У прыватнасці, мы шкадуем пра гэты смяротны прысуд, таму што ён перапыняе адносна станоўчую тэндэнцыю ў адносінах паміж Беларуссю і еўрапейскімі арганізацыямі, адзначаную вызваленнем усіх палітычных зняволеных у Беларусі, адсутнасцю гвалту падчас і пасля прэзідэнцкіх выбараў, якія ўпершыню з 2001 года назіраліся Парламенцкай Асамблеяй па запрашэнні беларускага парламента, і часовым прыпыненнем санкцый з боку Еўрапейскага саюза”, — адзначылі дакладчыкі.

“Мы настойліва заклікаем беларускае кіраўніцтва ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне ў якасці кроку ў кірунку яго поўнай адмены. Гэтае рашэнне, якое можа быць прынята ў любы час Прэзідэнтам, парламентам або Канстытуцыйным судом, стане праявай прагрэсу ў галіне абароны правоў чалавека, а таксама прадэманструе, што ўлады гатовыя да ўмацавання стасункаў з еўрапейскімі арганізацыямі”.

http://spring96.org/be/news/81338

## Калі спажываеш, значыць і распаўсюджываеш

Праваабаронцы берасцейскай “Вясны”, калі наведвалі ў СІЗа праваабаронцу з Такжыкістану Худайдодаву Шабнам, звярнулі увагу на тое , што кожны раз збіраецца вялікая чарга з родзічаў, якія турбуюцца за сваіх блізкіх.

Праваабаронцы пацікавіліся, за якія праванарушенія апынуліся за кратамі іх блізкія і знаёмыя.

“Ўсе тут па 328 артыкуле незаконны абарот наркоцікаў, частка 1, 2. Рэдка каму даюць частку 3 – спажыванне, за яе пакаранне



меньшае. Прысуды занадта жорскія, усё вырашае пракурор, нічога не дакажашь, сведкі - міліцыянты. Калі спажываеш, значыць і распаўсюджваеш”.

Па артыкуле 328 КК Беларусі - незаконны абарот наркатычных сродкаў асуджают на 8, 10, 16, 20 гадоў. Тэрміны прысуда занадта жорсткія, калі ўзяць пад увагу, што гэта маладыя людзі. У 16-18 гадоў падлеткі яшчэ не ўсьведамляюць многія свае дзеянні. Але гэта не значыць, што іх трэба саджаць на максімальны тэрмін. Дзяржава павінна змагацца з наркаманіяй, але таксама яна павінна дапамагаць выцягваць дзяцей з гэтай бяды, іх трэба лекаваць. Турма губіць, ламае жыццё, а не выпраўляе.

На пытанне, чаму так шмат асуджанных? Адказ: “Праваахоўныя органы працуюць па плане. Трэба пасадзіць 20 чалавек – пасадзяць”.

Пакуль бедалагі сядзяць у турме, сапраўдныя распаўсюднікі наркатычных сродкаў знаходзяцца на волі і посцят сваі фота ў сацсетках, дзе свабодна распавядаюць, як можна набыць наркотыкі.

## Зінаіда Міхнюк: Каб не стаць рабамі, трэба не баяцца ўлады

Не баяцца. З такім заклікам звяртаецца да ўсіх нас старшыня Берасцейскага абласнога прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк. Яна збірае подпісы пад адкрытым лістом да прэзідэнта за адмену дэкрэта № 29, які, прыгадаем, увёў у краіне кантрактную сістэму найму на працу. На думку актывісткі, кантрактная сістэма ў цяперашнім выглядзе ператварыла людзей у рабоў.

– Моладзь ад 30 да 40 спавіць подпісы ахвотна, згаджаюцца што гэта зло. А старэйшыя баяцца, нават пенсіянеры. Раптам іх подпіс знойдуць і іх пазбавяць пенсіі. Многія кажуць, што працуюць на

кантракце, таму баяцца. Вось да якога жывёльнага страху давялі наш беларускі народ. Я апавядаю, што ў мяне і ператрус дома быў, і у КДБ мяне дапытвалі, і вось я жывая і жыву сярод вас, таму што я не парушаю законы. Што вам за свае 2 мільёны пенсіі баяцца?



*Зінаіда Міхнюк з Маргарытай Вялічкінай (злева).*

Паводле Зінаіды Міхнюк, эканамічная сітуацыя будзе толькі пагаршацца. Таму людзі павінны разумець, што цяперашняя сітуацыя – гэта далёка не абяцаная “стабільнасць”.

http://www.racyja.com/hramadstva/zinaida-mikhnyuk-kab-ne-stats-rabami-tre/

## Пенсіянер са сваёй пенсіі кампенсуе пераплату дапамогі па догляду за маці-пенсіянеркай

З ліпеня 2011 года берасцеец А.Ц.Михайловский аформіўся ў аддзеле сацабароны адміністрацыі Маскоўскага раёна г.Брэста сацыяльным работнікам па догляду за сваёй маці Надзеяй Гарасімаўнай Міхайлоўскай, удзельнікам вайны. З ім заключылі бестэрміновы працоўны дагавор і выплачвалі грашовую дапамогу.

Са слоў Алега Цімафеевіча летам 2013 года ў кватэры маці ён пабачыў дзяўчыну. Пацікавіўся ў мамы, хто гэта такая. Яна адказала, што, маўляў, калі цябе не будзе, я з ёй дамовілася, каб збегаць у краму, аптэку і іншае. Маўляў, я сама асобна аплачваю наяўнымі грашыма. Пра тое, што 90-гадовая Надзея Гарасімаўна, якая кепска бачыць, падпісала дагавор з тэрытарыяльным Цэнтрам сацабслугоўвання насельніцтва Маскоўскага раёна г.Брэста яго ў

вядомасць ніхто не паставіў. Дзве сацыяльныя службы Маскоўскага раёна паралельна дублявалі працу па апецы за састарэлым чалавекам, і выплачвалі грошы.

Аддзел сацабароны не сапаставіў спісы агульнай базы дадзеных сацработнікаў са спісамі тэрытарыяльнага Цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва Маскоўскага раёна г. Брэста.

Крайнім зрабілі Алега Цімафеевіча, які зараз мусіць вярнуць аддзелу сацабароны каля 10 мільёнаў рублёў за перыяд з 2013/03/01 г. па 2013/12/31 г.

А.Ц.Михайловский напісаў зварот у абласную і Генеральную пракуратуры, у Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва аблвыканкама. Справа разглядалася ў судзе Маскоўскага раёна г. Брэста і Брэсцкім абласным судзе, таму як Міхайлоўскі лічыць, што з боку дзяржавы павінен быць ажыццёўлены кантроль за прадастаўленнем паслуг сацыяльнымі службамі. Аддзел сацабароны і тэрытарыяльны Цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва Маскоўскага раёна г.Брэста павінны узгадняць усе пытанні працаўладкавання сацработнікаў паміж сабой, павінены ажыццяўляць кантрольныя функцыі... Ён лічыць, што па віне дзяржаўных органоў атрымалася падвойная выплата грашовай дапаміогі, і што ўтрымаць пераплочаную суму неабходна з раённага тэрытарыяльнага Цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.

Барацьба з дзяржаўнымі структурамі выніку не дала, зараз Міхайлоўскі А.Ц. вяртае са сваёй пенсіі грошы, якія атрымаў ад дзяржавы, па апецы за сваёй маці.

Мабыць выпадак з Міхайлаўскім, у святле апошніх захадаў дзяржавы па папаўненні бюджэту, з'яўляецца ўдасканальваннем метадаў, форм і спосабаў па "законным" вымальніцтве грошаў с законапаслухмяных грамадзян, а таму максімальны разгалос ягонага досведу засьцеражэ іншых грамадзян ад патраплення ў падобную сітуацыю.

## Берасцейская мытня ўважае кнігі Пазняка за экстрэмісцкія

Берасцейская мытня накіравала ў суд Маскоўскага раёна



Берасця заяву аб прызнанні дзвюх кніг Зянона Пазняка экстрэмісцкімі матэрыяламі.

Пра гэта паведаміў адказны сакратар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ Аляксандр Чахольскі 25 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Менску, паведамляе БелаПАН.

Па два асобнікі кніг «Добрыя фатаграфіі» і «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял» былі канфіскаваныя ў Чахольскага 27 верасня ў пункце мытнага афармлення «Брэст Цэнтральны» па вяртанні з Польшчы, дзе яны былі набытыя.

Чахольскі паведаміў, што кнігі былі накіраваныя ў экспэртную камісію Берасцейскай вобласці па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці або адсутнасці ў ёй прыкмет праявы экстрэмізму. Паводле высноваў камісіі ад 26 кастрычніка, у кнігах прысутнічаюць прыкметы экстрэмізму.

Пасля гэтага, паведаміў Чахольскі, на кнігі быў накладзены арышт, а ў суд накіраваная заява мытні аб прызнанні іх экстрэмісцкімі матэрыяламі. Калі адбудзецца паседжанне суда, палітыку пакуль не вядома.

Кніга «Добрыя фатаграфіі» з'яўляецца зборнікам фатаграфічных эсэ пра фотаздымкі з краін Еўропы і Амерыкі з сярэдзіны XIX стагоддзя і да нашых дзён. Кніга «Абарона Курапатаў. Народны мемарыял» - зборнік артыкулаў, успамінаў, матэрыялаў і фатаграфій, прысвечаных тэме абароны Курапатаў (урочышча - месца масавага пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій).

http://charter97.org/be/news/2015/11/25/180099/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»